# ЗА РАБОТУ, ТАВАРЫШЫ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ствярыць кнігу пра саўгас «Мінскі», заснаваны нашымі землякамі.

Аб велічных планах камуністычнага будаўніцтва, якія намеціў гістарычны XXII з'езд партыі, усхвалявана гаварыў Мікола Хведаровіч.

— Усё для чалавека, для шчасця чалавека! Гэтыя словы нельга вымаўляць раўнадушна. Сёння мы ўжо адчуваем здзяйсненне запаветнай мары чалавецтва. Дзеля шчасця чалавека паміралі ў турмах, у ссылках і на катарзе лепшыя розумы чалавецтва. І вось сёння, на нашых вачах, збываецца іх спадзяванне, будуецца тое грамадства, на сцягу якога напісана: «Чалавек чалавеку — друг, таварыш, брат!»

Пісьменнікаў асабліва цікавіць раздзел Праграмы, у якім сфармуляваны маральны кодэкс будаўніка камунізма. Да гэтага павінна быць прыкавана наша ўвага. Будаўнік камунізма — новы герой нашай літаратуры. Нам трэба глядзець на сённяшнія справы з той вышыні, з якой павінны быць відны дзесяцігоддзі.

М. Хведаровіч пагадзіўся з таварышамі, якія гаварылі на сходзе аб тым, што Саюз пісьменнікаў вельмі мала працуе з літаратурнай моладдзю. Ён заклікаў унікнуць у гэтай справе фармалізму, агульшчыны. Праца з маладымі — творчая праца, і ў ёй не месца бюракратызму і фармалізму.

— Рашэнні з'езда — тэарэтычны і практычны універсітэт для пісьменнікаў, — сказаў Анатоль Вялюгін. — На з'ездзе прагучалі крылатыя словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова: «Мы раіліся з Леніным!» Гэтыя словы паказваюць глыбокую вернасць партыі ленінізма. Новая Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — вялікі маніфест нашай эпохі. Гэта — найлепшы твор нашага часу. І сёння мне ўспамінаюцца словы гераічнага сына Кубы Ніколаса Гільена, які гаварыў, што бясплённы той паэт, які не мае ў сабе сілы перадаць лірычна змест Праграмы нашай партыі.

Ліквідацыя рэшткаў культу асобы пакончыла з многімі хваравітымі з'явамі ў літаратуры. Зараз, падкрэсліў А. Вялюгін, трэба пісаць такія творы, якія б былі глыбока праўдзівымі, дзейсна памагалі народу змагацца за светлую будучыню — камунізм.

Прамоўца крытыкуе пазіцыю «Литературной газеты», яе адносіны да нацыянальных літаратур і ў прыватнасці да беларускай. За паўтара гады ў «Литературной газете» былі надрукаваны ўсяго тры рэцэнзіі на кнігі беларускіх пісьменнікаў.

У заключэнне А. Вялюгін сказаў:

— Мы ўспамінаем сёння тую тоненькую кніжачку, якая з'явілася больш ста гадоў назад — Маніфест Маркса і Энгельса. Якія ж словы мы павінны знайсці сёння для ўслаўлення маніфеста новай эпохі? Толькі самыя важкія, самыя цёплыя, самыя пранікнёныя!

Кожны з нас павінен рабіць нешта такое, каб радаваліся людзі, сказаў Міхась Скрыпка. Ён гаварыў аб неабходнасці лепш афармляць кнігі, якія выдае Белдзяржвыдавецтва.

Узаемаадносінам аўтараў і работнікаў выдавецтва прысвяціў выступленне Нічыпар Чарнушэвіч.

Вечаслаў Адамчык падкрэсліў, што гісторыя нашай літаратуры распрацавана вельмі недасканала, асабліва перыяд дваццатых-трыццатых гадоў. На думку В. Адамчыка, недастаткова высокая якасць кнігі «Героі нашых дзён». Некаторыя нарысы — нудныя, шэрыя, павярхоўныя. Прамоўца выказаў крытычныя заўвагі ў адрас часопіса «Маладосць».

У спрэчках таксама прынялі ўдзел П. Пестрак, Р. Кобец, К. Кірэенка, А. Рылько.

Сход прыняў пастанову, у якой гаворыцца:

«Беларускія пісьменнікі, як і ўвесь савецкі народ, уважліва сачылі за гістарычнымі пасяджэннямі ў Крамлі, з пачуццём вялікага натхнення сустрэлі мудрыя рашэнні з'езда роднай Камуністычнай партыі. Прынятая на з'ездзе новая Праграма КПСС, гэты найвялікшы дакумент сучаснай эпохі, а таксама новы Статут партыі, поўнае ўхваленне дзейнасці Ленінскага ЦК у галіне ўнутранай і знешняй палітыкі, суровае асуджэнне антыпартыйнай групы адшчапенцаў - фракцыянераў, якія спрабавалі збіць нашу партыю з правільнага ленінскага шляху, рашучае і канчатковае выкарчаванне культу асобы, — усё гэта знайшло гарачы водгук ва ўсіх сэрцах, аднадушнае адабрэнне і падтрымку з боку беларускіх пісьменнікаў, як і ўсёй савецкай грамадскасці.

Наш народ назваў XXII з'езд КПСС з'ездам будаўнікоў камунізма, з'ездам, які падвёў вынікі сусветна-гістарычных перамог Савецкага Саюза і вызначыў ясныя шляхі ў будучыню. Цесна згуртаваўшыся вакол роднай партыі, пісьменнікі ўсе, як адзін, з вялікім уздымам успрымаюць рашэнні XXII з'езда. Камуністычная партыя, ажыццяўляючы ленінскую генеральную лінію, заклікае і мабілізуе не толькі літаратараў, работнікаў навукі, культуры і мастацтва, — усіх працоўных: за работу, за выкананне намечаных з'ездам грандыёзных планаў пабудовы камунізма ў нашай краіне».

Сход пастанавіў: «Аднадушна ўхваліць гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС, прынятую ім праграму будаўніцтва камунізма і, паўсядзённа змагаючыся за выкананне задач, пастаўленых партыяй у галіне літаратуры, прыкласці ўсе творчыя намаганні да ажыццяўлення велічных камуністычных ідэалаў».

Пісьменнікі вырашылі арганізаваць глыбокае вывучэнне Праграмы Камуністычнай партыі, актыўна прапагандаваць матэрыялы з'езда ў масах, рэкамендаваць прэзідыуму СП БССР і партбюро распрацаваць перспектыўны план мерапрыемстваў творчай працы Саюза пісьменнікаў і партарганізацыі ў адпаведнасці з Праграмай КПСС і рашэннямі XXII з'езда КПСС.

У пастанове падкрэслена, што неабходна «пакласці ў аснову далейшай творчай працы задачы, якія вынікаюць з рашэнняў XXII з'езда КПСС, Праграмы партыі як крыніцы творчага натхнення з тым, каб у бліжэйшыя гады з'явілася ў нашай літаратуры шмат новых высокамастацкіх твораў аб жыцці і працы будаўнікоў камуністычнага грамадства».

## Выйшлі з друку

У Белдзяржвыдавецтве выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі мастацкай і дзіцячай літаратуры:

**Міхась Машара.** Зязюльчыны слёзы. Казка. Для малодшага ўзросту. Малюнкі М. Савіцкага. Тыраж 24 тыс. экз., стар. 24. Цана 4 кап.

**Аладзін і чарадзейная лямпа.** Арабская казка. Для малодшага ўзросту. Малюнкі Г. Паплаўскага. Пераклад С. Драздоўскага. Тыраж 30 тыс. экз., стар. 34. Цана 25 кап.

**Літоўскія народныя казкі.** Для малодшага ўзросту. Мастак В. Цітановіч. Пераклад І. Скапарава. Тыраж 12 тыс. экз., стар. 152. Цана 37 кап.

**І. Кузняцоў.** Вакальныя творы. Песні і хоры. На словы А. Бачылы, С. Алейніка, Э. Валасевіча, А. Дзеружынскага і А. Русака. Тыраж 1 020 экз., стар. 38. Цана 34 кап.

**Два беларускія танцы.** Партытура для народнага аркестра. Апрацоўка А. Граса і П. Кірыльчанкі. Аркестроўка М. Лісіцына. Тыраж 1 тыс. экз., стар. 24. Цана 14 кап.

## З кінакамерай па рэспубліцы

Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 31. Яго першы сюжэт расказвае аб мітынгах працоўных Беларусі, якія горача ўхваляюць і цалкам падтрымліваюць палітычную лінію Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Знаходжанню ў Мінску партыйнай дэлегацыі Балгарыі на XXII з'ездзе КПСС на чале з першым сакратаром ЦК Балгарскай кампартыі Тодарам Жыўкавым прысвечан другі сюжэт кіначасопіса.

Гледачы ўбачаць таксама прадукцыю завода сельгасмашын у Лідзе, устанаўленне велізарнага сталёвага капра ў Салігорску, уручэнне ветэранамі ленінскай партыі камсамольскіх білетаў юнакам і дзяўчатам Мінска ў доміку першага з'езда РСДРП, экспанаты Рэспубліканскай выстаўкі самадзейных майстроў выяўленчага і прыкладнога мастацтва, эпізоды з новага кінафільма «Юлькін дзень», які зараз здымаецца на кінастудыі «Беларусьфільм».

Нядаўна вучні Ратамскай сярэдняй школы Мінскага раёна сустрэліся з камісарам легендарнага крэйсера «Аўрора» Аляксандрам Віктаравічам Балышавым.

З вялікай увагай праслухалі дзеці змястоўны і цікавы расказ камісара Балышава аб удзеле ў Кастрычніцкай рэвалюцыі крэйсера «Аўрора».

Крэйсер «Аўрора» атрымаў баявое заданне накіравацца па Няве да Зімовага палаца. Гарматы «Аўроры» пад камандай камісара Балышава былі наведзены на Зімовы палац. Залпы «Аўроры» абвясцілі свету аб пачатку новай эры.

На здымку: вучні Ратамскай школы слухаюць расказ камісара крэйсера «Аўрора» Аляксандра Віктаравіча Балышава.

Фота Л. ХАТКОЎСКАГА.

# НЕ Ў ГАСЦЯХ, А ДОМА

У нашай вёсцы Залессе працуе вялікі атрад інтэлігенцыі. Каля 30 чалавек з вышэйшай адукацыяй, а колькі з сярэдняй спецыяльнай! Ні адна справа ў вёсцы не абыходзіцца без удзелу гэтых людзей.

У пачатку мінулага года калгаснікі сельгасарцелі «Чырвоны партызан» абмяркоўвалі перспектыўны план развіцця сваёй гаспадаркі. Прадстаўнікі інтэлігенцыі энергічна падтрымалі прапановы праўлення — пабудаваць новую школу, лазню, сельмаг, пошту, бібліятэку, дзіцячы сад, сталовую.

Спецыялісты сельскай гаспадаркі прымаюць актыўны ўдзел у рабоце сельскага Дома культуры. Энтузіястам самадзейнага мастацтва зарэкамендавала сябе настаўніца сярэдняй школы дэпутат райсавета Г. Рыжэвіч, якая ўжо дванаццаць год нязменна кіруе ў нас драмгуртком. Пад яе кіраўніцтвам гурткоўцы паставілі на сцэне каля ста п'ес і камедый. Сярод іх «Паўлінка» і «Прымакі» Янкі Купалы, «Мядзведзь» А. Чэхава, «Мікітаў лапаць» М. Чарота, «Гром з яснага неба» А. Рылько, «Апошняя варажба» Ус. Краўчанкі і інш.

Сапраўднай энтузіясткай паказала сябе старшая піянерважатая Марыя Далінская — кіраўнік харавога калектыву. У мастацкай самадзейнасці ўдзельнічаюць педагог Л. Сальнікава, медсястра Т. Канькова, фельчар А. Кухарэнка, заатэхнік Я. Біснюк, бібліятэкар З. Рамановіч і інш.

Толькі за апошнія восем месяцаў гэтага года прадстаўнікі сельскай інтэлігенцыі прачыталі ў нас 56 лекцый і дакладаў для насельніцтва, паставілі 16 канцэртаў і спектакляў, правялі 12 тэматычных вечароў, тры вечары пытанняў і адказаў і тры вусныя атэістычныя часопісы. Нядаўна адбыўся цікавы вечар «Мы будзем жыць пры камунізме», у якім прынялі актыўны ўдзел сельскія інтэлігенты К. Туцкі, М. Даўбешкін, Н. Мельнікаў і іншыя. Вечар прайшоў паспяхова.

Сельскі інтэлігент — не госць у вёсцы, не часовы жыхар, не староннi назіральнік. Ён — актыўны будаўнік камунізма, удзельнік барацьбы за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі і культуры.

У новай Праграме КПСС падкрэсліваецца вялікая роля грамадскасці ў культурным будаўніцтве.

Але, на жаль, у нас яшчэ слаба выкарыстоўваюцца творчыя магчымасці інтэлігенцыі, яе багаты вопыт і веды.

У трох-чатырох кіламетрах ад Залесся, дзе знаходзіцца сельсавет, ёсць вёска Сівіца, дзе вялікі калгас, школа, бібліятэка, клуб, медпункт. Ёсць вядома, і сельскі лекторый, і культкамісія пры сельсавеце. Якое багатае культурнае жыццё магло быць у гэтай вялікай вёсцы... А на справе за год адбываецца два-тры выступленні школьнікаў з канцэртам перад святамі ды чытаецца некалькі дакладаў. Сельскі клуб гэтага сельсавета ў большасці на замку, у ім, а таксама ў бібліятэцы — холад. І нікога не цікавіць, што духоўныя запатрабаванні насельніцтва не задавальняюцца, што культура працы ў калгасе невысокая. Такая ж карціна ў Сіньках, Паніззі, Капланах і ў іншых суседніх вёсках.

У чым жа справа? Раздумваючы над гэтым пытаннем, прыходзіш да вываду, што сельская інтэлігенцыя тут адарвалася ад жыцця калгаса. Замыкаючыся ў рамкі сваёй прафесіі, спецыялісты ведаюць часам адзін аднаго толькі за вочы, не сустракаюцца, не абмяркоўваюць ніякіх пытанняў, хоць побач жывуць гадамі.

Інтэлігенцыю збіраюць пераважна напярэдадні выбарчай кампаніі, каб аб'явіць, да якой дзесяцідворкі хто прымацаваны, і ўсё. А ў астатні час кожны жыве па свайму разуменню: робіш штонебудзь — добра, не робіш — ну і няхай сабе... Трэба далучаць спецыялістаў да грамадскага жыцця, падтрымліваць іх ініцыятыву, выкарыстоўваць іх арганізатарскія навыкі. Чаму, напрыклад, не збіраць інтэлігенцыю раёна, сельсавета, калгаса для абмеркавання пытанняў культурна-асветнай работы на вёсцы? На сходах варта было б выступіць з дакладамі кіруючым работнікам раёна, старшыням сельсаветаў і калгасаў.

Нельга не сказаць і пра запатрабаванні — бытавыя і культурныя — самой інтэлігенцыі. У яе жыцці шмат такога, што стварае «чамаданны настрой», вядзе да цякучасці.

Паспрабуйце набыць радыёпрыёмнік ці радыёлу, не гаворачы пра тэлевізар, купіць добры музычны інструмент, мэблю, лыжы, канькі, спартыўны касцюм, патэфонныя пласцінкі, зрабіць падарунак блізкаму чалавеку — ды гэта ж цэлая праблема! Немагчыма дастаць новую кнігу. Вось прайшоў месячнік кнігі, а мы яго ў вёсцы і не адчулі (каторы ўжо год). Цяпер у нашым магазіне наогул няма ніякіх кніг: залежалыя знялі з паліц, а новыя ўсё збіраюцца завезці. Вось і ствярай свае асабістыя бібліятэчкі... Не задавальняюцца і патрэбы сельскіх гледачоў у мастацтве. Многа новых кінафільмаў зусім не даходзіць сюды.

Нябачаныя па маштабах справы здзяйсняюцца цяпер у вёсцы: узнімаецца ўгару сельская гаспадарка, расце культура, з кожным днём паляпшаецца жыццё сельскіх працаўнікоў. Немалы ўдзел сельскай інтэлігенцыі ў выхаванні маладога пакалення — актыўных будаўнікоў камунізма. І трэба ўсё зрабіць для таго, каб настаўнікі, медыкі, аграномы, заатэхнікі яшчэ больш актыўна паляпшалі і ўпрыгожвалі жыццё савецкага чалавека ў вёсцы.

**Ул. СУРМАЧ,**
**дырэктар Залескага дома культуры Смаргонскага раёна.**

# ЦУДОЎНЫ СВЕТ ДУШЫ

У старажытным беларускім мястэчку Будслаў, што ў Крывіцкім раёне, сёй-той з кнігалюбаў сустрэўся з гэтай выдатнай кнігай ужо каля года назад. Адзін экземпляр яе на польскай мове прыслала сюды з Варшавы сама аўтар — Марцяна Фарнальская. Вось ён, цудоўна выдадзены на 800 старонак, том «Успамінаў маці».

На шмуцтытульным лісце ад рукі напісана: «Дарагой, любімай Паўліне — на ўспамін аб нашым прабыванні ў Царыцыне. Бабуля М. Фарнальская». Гэты экземпляр «Успамінаў маці» прысланы ў адрас жыхаркі Будслава Паўліны Вікенцьеўны Мядзёлкі. Паўліна Вікенцьеўна — пенсіянерка, былая выкладчыца мовы і літаратуры, адважная радавая старой арміі змагароў за права беларусаў «людзьмі звацца», першая выканаўца ў 1913 годзе ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Юная Паўлінка пазнаёмілася з польскай сям'ёй Фарнальскіх у час першай сусветнай вайны на Волзе, у вялікім патоку бежанцаў, і пасябравала там з Малгосяй Фарнальскай, якая стала потым сакратаром Цэнтральнага камітэта Польскай рабочай партыі. Яе закатавалі гітлераўскія людаеды. Так з'явілася кніга Марцяны Фарнальскай, маці Малгажаты, у сціплым будслаўскім доміку.

Паўліна Вікенцьеўна горача рэкамендавала «Успаміны маці» сваім землякам, гаворачы:

— Абавязкова прачытайце...

З рук былой настаўніцы беражліва загорнутая ў газету кніга пераходзіла ў рукі пажылых людзей — тых, хто ведае польскую мову.

Але вось настала чарга і больш маладых. На паліцах кніжнага магазіна ў раённым цэнтры з'явіўся рускі пераклад «Успамінаў маці» Марцяны Фарнальскай — «чалавека з самай вялікай літары», як называе яе ў сваёй прадмове да гэтай кнігі пісьменніца Ванда Васілеўская. Адбылася другая сустрэча тутэйшага чытача з непаўторным творам.

Бясхітрасны і праўдзівы расказ гераічнай маці з усімі адступленнямі і дарагімі яе сэрцу падрабязнасцямі — захапляе мацней, чым самы цікавы раман. Адкрываецца вялікі і цудоўны свет матчынай душы. І гэты свет тым больш цудоўны, тым больш велічны ад таго, што ён асветлены крывавымі водбліскамі дзвюх сусветных войнаў, авеяны пафасам барацьбы за вызваленне працоўных ад капіталістычнага рабства.

І цяпер, амаль праз паўстагоддзе, Марцяна Фарнальская з вялікім хваляваннем успамінае знамянальны дзень свайго жыцця ў далёкім рускім горадзе Царыцыне:

«Нарэшце мы накіраваліся ў партыйны камітэт, дзе нас чакала вялікая радасць... Сакратар адразу ж запоўніў нашы партыйныя білеты, на якіх мы распісаліся. я — крыжыкам. І вось я, амаль пяцідзесяцігадовая непісьменная вясковая жанчына, і Малгося, пятнаццацігадовая школьніца-энтузіястка, абедзве з аднолькавым пачуццём прыціснулі да сэрца гэты вялікі скарб — партыйны білет».

Але быць членам партыі камуністаў — гэта значыць змагацца. І Марцяна Фарнальская і асабліва яе дачка Малгажата аддаюць барацьбе доўгія, неспакойныя гады. Для асабістага жыцця, для сям'і не застаецца часу. Цяжкай дарогай рэвалюцыйнай барацьбы ідуць усе дзеці маці-камуністкі — дачка Фэля, сыны Алесь, Стась, Ляон. Яны рэдка бываюць разам, нечакана з'яўляюцца і таксама раптоўна расстаюцца, іншы раз надоўга. Турмы, падполле... Рэвалюцыя патрабуе. Куды партыя загадае. Сустракаюцца і расстаюцца без слёз.

Марцяна Фарнальская страціла ўсіх дзяцей, апроч старэйшай дачкі Фэлі. Усё гэта вытрымала яна, мужная польская маці.

У заключэнне лепш за ўсё прывесці словы, якія нарадзіліся ў грудзях Марцяны Фарнальскай, калі яна ў пошуках астанкаў дачкі Малгажаты і сына Франака прыйшла пасля вызвалення Варшавы на руіны турмы «Павяк».

«О, мацеркі! Я аплакваю не толькі сваіх дзяцей, з якіх адна ляжыць дзесьці тут, пад руінамі, а другога, магчыма, жывым спалілі ў газавай печы: я аплакваю і вашых дзяцей, якіх вы страцілі таксама, як і я. І адна толькі ўцеха для нашых спакутаваных сэрцаў: ніколі больш не дапусціць гэтага жаху, гэтага найвялікшага чалавечага няшчасця — ніколі больш не дапусціць вайны!»

**Г. САМСОНАЎ.**

— А нас за акіянам усё-такі цэняць.
— Яно і не дзіва, за аднаго ж бітага двух нябітых даюць.

# Размова павінна адбыцца

Творчая дружба пісьменнікаў і мастакоў Беларусі за апошні час узбагацілася яшчэ адной карыснай формай сувязі — арганізацыяй выставак нашых мастакоў у клубе Саюза пісьменнікаў БССР. Наўрад ці можна пераацаніць значэнне падобных кантактаў. Веданне суседніх жанраў мастацтва, у дадзеным выпадку выяўленчага, узбагаціць кругагляд беларускіх празаікаў і паэтаў.

У той жа час сур'ёзная, прынцыповая размова літаратараў пра беларускі жывапіс можа садзейнічаць таму, што і мастакі знойдуць шляхі больш глыбокага пранікнення ў жыццё і ўзнімуць у сваёй творчасці новыя актуальныя тэмы. Бо не выпадкова ж беларускіх мастакоў крытыкавалі за драбнатэмнасць, павярхоўнасць, няўменне разгледзець вялікае, істотнае ў малым, штодзённым і раскрыць эстэтычную прыгажосць той ці іншай падзеі.

Шчырая сяброўская размова пісьменнікаў і мастакоў аб шляхах развіцця беларускага выяўленчага мастацтва зрабіла б добрую паслугу і літаратуры і мастацтву. На жаль, мастацкія выстаўкі, якія раней арганізоўваліся ў клубе пісьменнікаў, не выклікалі дзелавога абмеркавання.

У клубе Саюза пісьменнікаў былі арганізаваны выстаўка твораў старэйшага беларускага мастака Л. Лейтмана, вельмі цікавая выстаўка экслібрыса, мастацтва якога цяпер незаслужана забыта і амаль не папулярызуецца, і, нарэшце, своеасаблівая творчая справаздача Я. Красоўскага і Ул. Стальмашонка «З блакнота мастака» пра іх паездкі па Дунаі і па рэспубліцы. Але яны прайшлі даволі непрыкметна, хоць давалі багаты матэрыял для творчага абмеркавання.

Цяпер тут экспануюцца творы беларускага мастака Анатоля Волкава. А. Волкаў вядомы сваімі жывапіснымі палотнамі, ён зарэкамендаваў сябе выдатным ілюстратарам, своеасаблівым сатырыкам.

У той жа час А. Волкаў, бадай, больш за іншых нашых майстроў выяўленчага мастацтва звязаны з беларускай літаратурай. Пасля прыезду ў Мінск у 1933 годзе мастак прымае актыўны ўдзел у рабоце Белдзяржвыдавецтва, ілюструючы творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Лынькова, а таксама розныя зборнікі народных казак.

Гэтая дзейнасць мастака з асаблівай сілай разгарнулася ў пасляваенныя гады. А. Волкаў праявіў сябе тонкім і ўдумлівым інтэрпрэтатарам мастацкіх вобразаў, створаных Якубам Коласам, Э. Самуйлёнкам, М. Багдановічам. Ён умела раскрывае асаблівасці кожнага літаратурнага твора. Вялікім творчым дасягненнем з'яўляюцца яго ілюстрацыі да паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», прадстаўленыя на выстаўцы, а таксама застаўкі да гэтага твора, якія можна разглядаць як самастойныя работы — столькі ў іх самабытнага, непасрэдна знойдзенага.

Любоўю карыстаюцца ў мастака аповесці, апавяданні і казкі для юнацтва і дзяцей. Дастаткова пазнаёміцца з малюнкамі да казкі М. Багдановіча «Мушка-зелянушка», каб атрымаць уяўленне аб высокім майстэрстве А. Волкава.

Але не толькі ілюстрацыйная графіка прыцягвае ўвагу на выстаўцы. А. Волкаў — сатырык, які актыўна супрацоўнічае ў часопісе «Вожык», ён аўтар яркіх і запамінальных карыкатур. Яго вострыя малюнак гнеўна выкрывае ўсё злое і коснае, што перашкаджае нашаму грамадству ў руху наперад, высмейвае п'яніц, халтуршчыкаў, людзей, якія ставяць свае асабістыя інтарэсы вышэй за грамадскія. Варта, аднак, сказаць, што тут мастаку ўласцівы агульны для ўсёй беларускай карыкатуры недахоп. Гэта — адсутнасць пошукаў новых форм, што замінае стварэнню больш дзейснай і больш вострай сатыры.

Адначасова многа і плённа працуе А. Волкаў як жывапісец. Яго пейзажы, партрэты і жанравыя карціны займаюць на выстаўцы значнае месца. Мастаку асабліва блізкія вясна, восень, гэтыя паэтычныя поры года, калі прырода, абнаўляючыся, асабліва ярка раскрывае сваю прыгажосць і адлюстраванне якіх патрабуе ад мастака вялікай шчырасці і прафесіянальнага майстэрства. Невялікія пейзажы «Вясна», «Восень. Сцежкі» і «Кветнік» вабяць востра адчутым станам прыроды, тонкасцю жывапісу. Іменна гэтыя якасці мастака дазволілі яму ў невялікіх па памерах акварэльных пейзажах перадаць пачуццё чалавека, які любуецца абуджанай прыродай у першыя веснавыя дні.

А якой улюбёнасцю ў родны горад, у яго плошчы, скверы і сады павявае ад цікавай серыі акварэлей на тэму «Мінск і яго жыхары», паказанай на выстаўцы. «Зіма. Апельсіны», «Зіма. Дзеці», «Дзіцячы садок», «Круглая плошча» — колькі назіральнасці, гумару, а галоўнае, добразычлівасці ў адносінах да сваіх землякоў-мінчан адчувае глядач у гэтых і іншых работах з серыі работ мастака аб Мінску.

Асобнае месца на выстаўцы займае партрэт. Тут побач з работамі вельмі ўдалымі ёсць і пасрэдныя, напрыклад, «Партрэт партызана», які адзначаецца паспешлівасцю, павярхоўнасцю, звычайна не ўласцівай А. Волкаву. З ранніх партрэтаў хочацца адзначыць партрэт «Дзяўчынкі ў чырвоным», дзе, нягледзячы на некаторыя «агрэхі» ў малюнку, мастак з цеплынёй стварае непасрэдны, вельмі пранікнёны вобраз. Сярод больш позніх партрэтаў запамінаецца лёгка і лаканічна напісаны, свабодны ад дэталей партрэт паэта А. Астрэйкі, з востра падкрэсленымі характэрнымі асаблівасцямі, а таксама акварэльны партрэт А. Паслядовіч. Партрэт жонкі мастака, нягледзячы на некаторую вяласць малюнка і шэрасць каларыту, усё ж цікавы імкненнем да раскрыцця псіхалагічных рысаў чалавека.

Кожная мастацкая выстаўка — значная з'ява ў культурным жыцці нашай сталіцы. Што ж датычыць выстаўкі мастака А. Волкава, дык па сваёй разнастайнасці і шматтэмнасці яна можа служыць удзячным матэрыялам для добрай дыскусіі аб месцы мастака ў нашым жыцці, аб задачах, якія стаяць перад беларускім выяўленчым мастацтвам пасля XXII з'езда КПСС і аб цэлым радзе іншых праблем. Трэба меркаваць, што яе не напаткае лёс папярэдніх выставак і, нарэшце, адбудзецца даўно наспелая размова аб мастацтве, імкненне да якой у пачатку сёлетняга года выказалі на сумеснай сустрэчы ў Дзяржаўным мастацкім музеі нашы пісьменнікі і мастакі.

**Э. ВАРАШЫЛАЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.**

Ілюстрацыя да рамана Э. Самуйлёнка «Будучыня».

# ВЕРНЫ ВУЧАНЬ РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ДЭМАКРАТАЎ

**ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Б. БЕЛАБЛОЦКАГА**

Беларуская зямля дала ў мінулым многіх пісьменнікаў і крытыкаў, якія з-за адсутнасці друкаванай трыбуны, з-за слабага развіцця нацыянальных літаратурных традыцый пісалі не на роднай мове, а на мовах братніх народаў — рускай, польскай, украінскай. Да іх ліку належыць і Браніслаў Белаблоцкі, аб якім вядомы даследчык славянскіх літаратурных узаемасувязей Марыян Якубец сказаў, што ў польскай крытыцы 80-х гг. мінулага стагоддзя ён заставаўся адзіным вучнем і прадаўжальнікам справы Чарнышэўскага і Дабралюбава і ад іх рэвалюцыйнага дэмакратызму ўзняўся да навуковага сацыялізма.

Аб Браніславе Белаблоцкім да нас дайшлі вельмі скупыя біяграфічныя звесткі. Нават невядома дакладная дата яго нараджэння. Вядома толькі, што ён нарадзіўся ў 1861 годзе ў «Астрашыне ля Слуцка». Яго бацькі паходзілі з дробнай беларускай шляхты. Адносна нацыянальнай прыналежнасці Б. Белаблоцкага ў нас не можа быць ніякіх сумненняў, бо, як зазначае польскі літаратуразнаўца Самуэль Сандлер у сваёй кнізе «Ля вытокаў марксісцкай літаратурнай крытыкі ў Польшчы», «у доме і асяроддзі Белаблоцкага карысталіся пераважна беларускай мовай, польская мова была там, галоўным чынам, мовай рэлігійнага культу...»

Першапачатковую адукацыю Б. Белаблоцкі атрымаў у Мінскай гімназіі, з якой выйшла нямала выдатных людзей. Там юнак пазнаёміўся з творамі рэвалюцыйных дэмакратаў. Адзін з паплечнікаў Б. Белаблоцкага, яго біёграф і выдавец Людвік Кржывіцкі пісаў, што будучы крытык вынес з гімназіі радыкальныя погляды, якія былі тады там «вельмі распаўсюджаныя».

У жніўні 1878 года Браніслаў Белаблоцкі з 15 рублямі ў кішэні прыехаў у Пецярбург, каб вучыцца далей. Ён паступіў на юрыдычны факультэт універсітэта і адначасова наведваў заняткі ў Акадэміі мастацтваў. У вышэйшых навучальных установах Расіі тады было многа студэнтаў з Польшчы, Беларусі і Літвы. У адной Маскве — каля 600 і амаль столькі ж у Пецярбургу. Сярод гэтага студэнцтва былі вельмі пашыраны погляды рэвалюцыйных дэмакратаў, існавалі канспіратыўныя арганізацыі. Б. Белаблоцкі ўступіў у адну з іх — у «Польскую абшчыну», якая цесна супрацоўнічала з рускай «Народнай воляй». Бліжэйшымі яго сябрамі сталі рэвалюцыйна настроеныя Эдмунд Плоскі і Аляксандр Дэмбскі.

У Пецярбургу Б. Белаблоцкі ўпершыню сутыкнуўся з ідэямі навуковага сацыялізма. Дзякуючы гэтаму ён усведамляе, што ад слоў пара пераходзіць да справы, да прапаганды марксізма ў народных масах. Якраз у той час Людвік Варынскі арганізуе ў Польшчы першую рабочую партыю «Пралетарыят». Ён звяртаецца да студэнтаў, якія вучыліся ў Расіі, з заклікам вяртацца на радзіму, каб тут на практыцы спалучыць перадавую тэорыю з рабочым рухам. Браніслаў Белаблоцкі адгукнуўся на заклік Варынскага і следам за Плоскім і Дэмбскім восенню 1882 года прыехаў у Варшаву з дыпломам юрыста ў кішэні.

Нам дакладна невядома, якім чынам Б. Белаблоцкі быў звязаны з партыяй «Пралетарыят». Але, відаць, па яе заданню ён стаў на чале групы перадавых публіцыстаў, якія вырашылі выкарыстаць для прапаганды марксізма легальную трыбуну — «Штотыднёвы агляд». У 1883 годзе на старонках гэтага выдання паявіліся першыя артыкулы за подпісам Б. Белаблоцкага, а таксама Станіслава Крусінскага і Людвіка Кржывіцкага. Абыходзячы рагаткі цэнзуры, выкарыстоўваючы «метафарычнасць», эзопаву мову, якой яны вучыліся ў Чарнышэўскага і Дабралюбава, аўтары папулярызавалі асноўныя палажэнні навуковага сацыялізма. Асаблівую ўвагу яны звярталі на палітычную эканомію. Так, у чэрвені 1883 года Б. Белаблоцкі друкуе рэцэнзію на кнігу рускага эканаміста Іванюкова «Галоўныя асновы тэорыі эканамічнай палітыкі ад Адама Сміта да сучаснасці». Іванюкова ён папракае за тое, што той не ведае марксісцкай эканамічнай тэорыі, не чытаў «Капітала» К. Маркса — «гэтага, можа, самага выдатнага... твора».

Але асаблівым пафасам вызначаецца артыкул Б. Белаблоцкага «Лішак інтэлігенцыі». Ён быў выкліканы выступленнямі кансерватыўнай «Нівы», якая ў сувязі з тым, што многія выпускнікі заставаліся без работы, заклікала скараціць колькасць студэнтаў з разначыннага асяроддзя. Б. Белаблоцкі даказаў, што беспрацоўе закранае не толькі інтэлігенцыю, а, у першую чаргу, пралетарыят, што яно выклікана не якой-небудзь выпадковасцю, а капіталістычнымі вытворчымі адносінамі. У артыкуле «Лішак інтэлігенцыі» мы чытаем: «Але ўвогуле гэтая з'ява (беспрацоўе — **А. М.**) стала агульначалавечай і... вынікае з умоў эканамічнага ладу сучаснага грамадства... Прычынай таму з'яўляецца рухомы капітал, які ўсюды і заўсёды выступае такім чынам, што толькі ў вельмі выключных абставінах попыт на працу перавышае яе прапанаванне — звычайна ж справа выглядае наадварот. Гэта датычыцца не толькі інтэлігентных прафесій, але яшчэ ў большай ступені прадстаўнікоў фізічнай працы. І ў нас ёсць сталяры, слесары і г. д., у якіх няма работы, а дачакаемся таго, што ўвогуле кожная прафесія будзе мець сваю так званую рэзервовую армію капіталізму — паўперызм — рабочых без заняткаў, на вуліцы...» Аўтар артыкула рашуча адмятае спадзяванні некаторых пісьменнікаў, якія прыватнымі рэформамі і заклікамі да дабрачыннасці «без змены ўмоў быцця жадаюць змяніць і папраўіць чалавечую натуру...».

У рэцэнзіі на кнігу Іванюкова Б. Белаблоцкі выказвае думку, што грамадскія канфлікты вырашаюцца толькі «шляхам барацьбы класаў, якія адстойваюць свае супярэчлівыя інтарэсы». Аўтар лічыць, што калі раней класавая барацьба разгортвалася стыхійна, без навуковага абгрунтавання, то цяпер у працоўных ёсць свая рэвалюцыйная тэорыя — марксізм. «Да гэтага часу, — піша Б. Белаблоцкі, — навука не мела ніякага ўплыву на ход барацьбы ў грамадстве, бо сама яна знаходзілася ў пялёнках. Толькі, калі крытычны аналіз кінуў святло на ўзнікненне грамадскіх арганізмаў і на гаспадарча-грамадскі лад, магутнасць ведаў праявілася ў сістэматычнай барацьбе пралетарыяту супраць капіталізму».

Як бачым, нягледзячы на жорсткія цэнзурныя ўмовы Б. Белаблоцкаму ўдавалася недвухсэнсоўна выказваць свае палітычныя перакананні. Развіццё польскага рабочага руху, сувязь з «Пралетарыятам» дапамаглі яму (праўда, не ўсюды паслядоўна) перайсці ад ідэалогіі рэвалюцыйнага дэмакратызму да навуковага сацыялізма, чаго ў сілу спецыфічных рускіх умоў не здолелі ў свой час зрабіць Чарнышэўскі і Дабралюбаў.

Самуэль Сандлер у сваім даследаванні «Ля вытокаў марксісцкай літаратурнай крытыкі ў Польшчы» падкрэслівае, што ў той час Б. Белаблоцкі быў адзіным польскім публіцыстам, які «перакананна абараняў агульныя асновы дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму». У сваіх артыкулах

(Заканчэнне на 4-й стар.)

